«Дэпутаты эті ходют вокруг этых кармушак, хрукают вокруг этых кармушак, едят із этых кармушак.»

«Не ходіте вы на эті выбары, всё равно обманут!»

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка, сустрэча з журналістамі напярэдадні парляманцкіх выбараў, 1995 год.*

# Магілёўская Маладзёжная

№ 3 (5) 2000г. Выдаецца з 1998г. Заснавальнік і выдавец МГА Маладога Фронту

## БАЙКОТ-2000




Гэтую падзею называюць фарсам. Адны. Сьвятым абавязкам – іншыя. Але ж і тыя і другія – асновай дэмакратыі.

Выбары сапраўды зьяўляюцца тым універсальным інструментам, што дазваляе зьмяняць уладу негвалтоўным чынам. І анічога лепшага за такі сродак дасягненьня згоды ў грамадзтве чалавецтва пакуль не вынайшла.

У 1996 годзе зь ініцыятывы ППРБ у краіне адбыўся рэферэндум, вынікам якога сталіся зьмены ў Канстытуцыі, галоўнымі зь якіх аказаліся працягненьне тэрміну паўнамоцтваў Прэзыдэнта, наданьне яму права выдаваць дэкрэты роўныя закону, а таксама рэарганізацыя парляманту.

Тады вагі Парлямант – Прэзыдэнт сапраўды хісталіся непрадказальна... Яшчэ крыху й ППРБ будзе абвешчаны імпічмент. Але прайгралі.

Вынікаў рэферэндуму, акрамя такіх экзатычных краінаў, як Расея, Югаславія, Ірак і г. д. не прызнаў ніхто. І натуральна, усе ягоныя наступствы, а значыць і так званую Палату прадстаўнікоў, куды й прызначаныя сёлета выбары.

Чатыры гады шмат што зьмянілі з таго часу. Пад ціскам эўрапейскіх структураў і ўлада і, найперш, уплывовыя палітычныя партыі зрабілі шмат саступак у сваіх прынцыповых пазыцыях. Апошнія, прыкладам, пагадзіліся прызнаць дэ-факта тыя палітычныя умовы у якіх апынулася краіна асьля вышэйузгаданага рэферэндуму.

Але нягледзячы на шматлікія высілкі правесьці свабодныя выбары, якія зрабіла Эўропа (АБСЭ) , мэты яна не дасягнула. Для ўдзелу ў выбарах усіх палітычных сілаў краіны ад уладаў патрабавалася выканаць хаця б чатыры ўмовы, што дазволілі б нейкім чынам стварыць роўнасьць усім удзельнікам выбараў. У адвольным парадку гэта:

1) **пашырэньне паўнамоцтваў парляманту;**

2) **вызваленьне палітычных зьняволеных;**

3) **роўны допуск палітычных дзеячоў да СМІ;**

4) **выбарчыя камісіі павінны быць незалежнымі ад уладаў і складацца з прадстаўнікоў палітычных партый і грамадзкіх аб"яднаньняў.**

Нягледзячы на гучныя заявы,палітычны клімат на Беларусі не зьмяніўся. І партыі прынялі складанае, але досыць узважлівае рашэньне – **ня ўдзельнічыць у выбарах.**

Уладам як паветра неабходнае прызнаньне парляманту. Бо прайшло чатыры гады "працы" без аніякіх (!) афіцыйных кантактаў з цывільным сьветам – раз, а па-другое бессэнсоўнымі зьяўляюцца ўсе падпісаныя саюзныя дамовы з Расеяй, ратыфікаваныя непрызнаным нелегітымным парляментам.

Такім чынам выбары, што абвешчаныя ў гэтым годзе, ніякім чынам нельга лічыць свабоднымі і справядлівымі. Сярод кандыдатаў абсалютная большасьць людзей ужо пры ўладзе. А як вядома нам з матэматыкі ад перамены складаемых сума не зьмяняецца.

Таму на заканчэньне хацелася б пажадаць усяму студэнцкаму люду, ды ўвогуле моладзі не напружвацца й не хвалявацца – наш з вамі час яшчэ не прыйшоў. Але ўжо заўтра, мажліва на старонках гэтай жа газэты я буду прасіць вас прагаласаваць, бо без сапраўдных выбараў краіну сваю не адбудуем.

P. S. Студэнтам, ведаю, прыйдзецца цяжка. Як, дарэчы й намесьнікам дэканаў па выхаваўчай працы, што будуць павінныя забяспечыць яўку. Парада – не спрачайцеся, пахістайце галовамі калі будуць цягнуць на выбары. А потым "захварэйце", "забудзьцеся" прагаласаваць, і г. д. Помніце, вас падтрымлівае арт. 65 Канстытуцыі РБ: **"Выбары зьяўляюцца свабоднымі: выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць".**

**Андрусь КАВАЛЁЎ**

Слоўнік паняцьцяў

# Асамблея няўрадавых арганізацыяў

***Дэмакратычныя пераўтварэньні, што пачаліся на Беларусі на пачатку 90-х гадоў, сталіся моцным каталізатарам для зьяўленьня й разьвіцьця шырокага кола грамадзкіх недзяржаўных арганізацыяў (НДА). Кульмінацыйным момантам эвалюцыі «трэцяга сэктару» Беларусі стала стварэньне у 1996 годзе каардынуючай структуры—Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі.***

Асноўнымі функцыямі, закладзенымі ў падмурак дзейнасьці Асамблеі НДА, можна лічыць наступныя: **прававая** (аказаньне юрыдычнай дапамогі арганізацыям, уваходзячым у Асамблею, і прадстаўленьне іх інтарэсаў у ворганах судовай і выканаўчай уладаў), **інфармацыйная** (стварэньне базы дадзеных недзяржаўных арганізацыяў і адзінай інфармацыйнай прасторы), **распрацоўка тактыкі й стратэгіі разьвіцьця «трэцяга сэктара» Беларусі.**

Гэтыя напрамкі дзейнасьці Асамблеі рэалізуюцца пры дапамозе шэрага структураў. Напрыклад, «мазгавую місію» (распрацоўку канцэптуальных палажэньняў разьвіцьця «трэцяга сэктару») зьдзяйсьняе Працоўная група, куды ўваходзяць прадстаўнікі арганізацыяў-сябраў Асамблеі.

Выканаўчымі ворганамі Асамблеі недзяржаўных арганізацыяў зьяўляецца Выканаўчае бюро (ВБ) й інфармацыйна-аналітычны цэнтар (ІАЦ).

У кампетэнцыю Выканаўчага бюро ўваходзіць правядзеньне паседжаньняў Працоўнай групы й іншых мерапрыемстваў, вядзеньне базы дадзеных сябраў Асамблеі, прыём новых сябраў Асамблеі, выданьне інфармацыйнага бюлетэня.

Інфармацыйна-аналітычны цэнтар выконвае функцыі, зьвязаныя з аналітычнай дзейнасьцю, рыхтуе прапановы па стратэгіі й тактыцы Асамблеі, выдае аналітычны дадатак да інфармацыйнага бюлетэня й часопіс «Грамадзянская альтэрнатыва».

Аналізуючы вопыт дзейнасьці Асамблеі няўрадавых арганізацыяў, нельга не зазначыць, што сёньня яна мае патрэбу ў рэарганізацыі. Адным з важных этапаў на гэтым шляху зьяўляецца легалізацыя Асамблеі, што дае магчымасьць больш выразна удзельнічаць у грамадска-палітычным жыцьці краіны, рэалізоўваць нацыянальныя праграмы і г.д. Аднак паўстае пытаньне: як пры такім прадстаўніцтве ў Асамблеі (больш за 500 грамадзкіх арганізацыяў) можна гэтага дасягнуць?

На дадзены момант прапанавана дзьве мадэлі. Першая мадэль была прапанавана сп. Г.Грушавым. Яе сутнасьць заключаецца ў тым, каб склікаць пленарную Асамблею, як сход, у які павінны ўвайсьці па аднаму чалавеку ад кожнай арганізацыі, і гэтыя прадстаўнікі будуць заснавальнікамі новай арганізацыі пад назвай «Асамблея».

Ідэя другой мадэлі належыць сп. Б.Звозкаву. Ён прапанаваў зарэгістраваць Працоўную групу ў якасьці рэспубліканскай арганізацыі, дзе адна частка сябраў выбіраецца з рэгіёнаў, другая — па функцыянальнаму прынцыпу ад дзеючых праграм (культурніцкіх, праваабарончых грамадзянская адукацыя і г. д.) і трэцяя частка — сябры абраныя на кангрэсе Асамблеі. Па якому шляху будзе разьвівацца Асамблея вызначыць рэспубліканскі Кангрэс НДА, які адбудзецца 19 лістапада 2000 г.

Спэцыяльна для «ММ» - **Зьміцер ГРУМО**

# У МАГІЛЁЎСКІХ МАЛАДАФРОНТАЎЦАЎ ХВОРЫЯ НОГІ

Бо інакш цяжка патлумачыць іхную прагу дабірацца ўжо на другі паверх дзесяціпавярховіка не рашучымі пругкімі крокамі маладога арганізма, а ў поўнай нерухомасьці ды ў адмысловым прыстасаваньні, то бок ліфце.

Ліфты ж нешта апошнім часам то стаяць нерухома па шэсьць месяцаў з-за звычайнага нядбайства, а бывае дык і зламысьнікі, як у нашым выпадку, возьмуць «пакарыстацца» кабель сілкаваньня.

Прадстаўнікі прадпрыемства жыльлёвай гаспадаркі на здарэньне разьвялі рукамі – на складзе нічога няма, але цягам усяго двух месяцаў абавязкова выправім...

Тое было ўжо занадта. Бо ў адной з кватэраў будынка, які напаткала такая непрыемнасьць проста на 10-м паверсе жыў маладафронтавец. Ці сапраўды былі ў яго хворыя ногі, ці турбавалі клопаты цяжарнае суседкі, але ўжо наступным днём група мясцовых маладых "фашіствуюшчіх національнал-радікалов" прапаноўвала жыхарам дома па вул. Турава, 10 падпісацца пад патрабаваньнем тэрміновага рамонту ліфтоў.

У гарвыканкаме, праўда, куды былі прынесеныя сем дзесяткаў подпісаў, заяўнікаў ветліва папрасілі перадаць абурэньне людзей у прадпрыемства жыльлёвай гаспадаркі. Там сустрэлі прыязна. Ды доўга не маглі зразумець, што такое МГА МФ (заяўнік) і чаму на беларускай мове. Але заяву зарэгістравалі й паабяцалі разабрацца ў "чачэніі" месяца.

Але чаго ня зробіць боль у нагах! Прачакаўшы літаральна два тыдні, няўрымсьлівыя маладзёны рыхтуюць заяўку на пікет ля гарвыканкама на гэтую тэму. Але тут ужо сустрэлі непрыхаванае неразуменьне сваіх надзённых праблемаў. Спн. Барсукова А. В., загадчыца аддзелу пісем, катэгарычна адмовілася прымаць паперчыну. Але боль калі-некалі робіць цуды і таму, прадэманстраваўшы неблагое веданьне закону аб масавых мерапрыемствах, маладыя людзі дамагліся прыёму заявы, якую нават зарэгістравалі (вось гэта дэмакратычнасьць!) .

Тым часам ліфты не працавалі, надзеі на ПЖГ зьнікалі з кожным крокам на прыступку, а да недазволенага (хутчэй за ўсё) пікету чакаць ажно пятнаццаць дзён...

Вось і ўзьнікае тут новая задума – а ці не напісаць ліст самому... М. А. Краснову, старшыні Магілёўскага гарвыканкаму? Задумана – зроблена. У старшыні прасілі кампрамісу – вы "нам" запускаеце ліфты, мы "вам" ня йдзем на несанкцыянаваны пікет (на 100% не дазволілі б на цэнтральнай плошчы, "загналі" б "у рэзэрвацыю"). І ня трэба будзе некаму апраўдвацца навошта засудзілі магілёўцаў, што сьціпла прасілі адрамантаваць свой ліфт.

Праз нейкія тры дні ўвесь магілёўскі МФ сьвяткаваў перамогу! З трэцяга заходу, выключна законнымі сродкамі, змарнаваўшы ўсяго 31 аркуш паперы й 16 гадзінаў часу. А што ж вы думалі? Ногі, хаця мо й не каштоўнейшыя за галаву, але таксама патрабуюць да сябе вялікага клопату.

Андрусь КАВАЛЁЎ



# Мастак Алесь Пушкін

## Аўтабіяграфія

У 1978 годзе паступіў у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І.О.Ахрэмчыка. Вучыўся у П.П.Шарыпы да 1983 года, у 1983 годзе паступіў на І курс манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага Дзяржаўнага Тэатральна-Мастацкага інстытута. (Цяпер Беларуская Акадэмія мастацтваў). Яшчэ ў школе, у 1982 годзе ўдзельнічаў у стыхійных выступленьнях вучняў супраць самаўпраўства адміністрацыі (складалі петыцыі, патрабаваньні адміністрацыі, аб'яўлялі галадоўкі і г.д., але за межы школы гэтая інфармацыя не выходзіла). У 1984 годзе прызваны у Савецкую Армію, служыў у Аўганістане, у 1986 годзе дэмабілізаваўся і аднавіўся на ІІ курс БДТМІ. У 1988 годзе ўдзельнічаў у студэнцкім руху (2 Вальны Сойм Маладзёвых Беларускіх Суполак, Вільня; Дзяды - 88). 25 сакавіка 1989 года заарганізаваў першы перфомэнс - сьвяткаваньне 71-х угодак БНР, тым самым распачаўшы сац-арт у Беларускім мастацтве. Тады ж і напісаў маніфест сац-арту. Першыя выставы і перфомансы ў сьценах БДТМ. Арышт на 15 сутак, узбуджэньне крымінальнай справы і сьледства па сьвяткаваньні Дню Волі. 14-21 ліпеня 1989 года - Менскі гарадзкі суд прыгаварыў за гэты ўчынак да 2-х год умоўна зь пяцігадовым паражэньнем у правох. Адбываў пакараньне і вучыўся ў БДТМІ. У 1990 годзе расьпісваю фае Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка. Гэта мая дыплёмная работа. Пасьля яе абароны выбіраю накіраваньне ў Віцебск, на працу. 25 сакавіка 1991 г. першая персанальная выстава артэфактаў дэкаратыўнага мастацтва (сац-арту) у Віцебску. Ёй папярэднічалі перфомансы сац-арту: «7 лістапада», «Віцебск за кратамі», «Вясна», «Вольнасьць», «Каханьне». Гэтая выстава была першым новым крокам у постсавецкім мастацтве Віцебска. Упершыню сац-арт з'явіўся ў Віцебску разам з Перабудовай, Галоснасьцю, Дэмакратыяй — рэаліямі таго часу. Гэтая ж выстава ў поўным складзе была перавезена ў Гародню, дзякуючы спадарыні Міхневіч, якая на той час была старшынёй Віцебскага Фонда Культуры. Але у Гародні, дырэктар Гісторыка-археалягічнага музэя А. Салаўёва ўзяла на сябе адказнасьць за закрыцьцё выставы і недапушчэньне паказа яе гарадзенцам, бо я не падпарадкаваўся патрабаваньням цэнзараў з абкаму КПСС зьняць некаторыя ўжо разьвешаныя працы і інсталяцыі. Таму, 6 чэрвеня 1991г. у Гародні выстава так і не адчынілася. Я вымушаны быў перавезьці карціны ў Менск. Падчас путчу 1991 года я вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг над ратушай горада Віцебска. А пасьля прызнаньня дзяржаўнай сымболікі «Пагоня» і Абвяшчэньня Дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі абвясьціў аб заканчэньні свайго творчага

працяг на стар. 4



Пасха. 1995г.



Вячэра, 1989г.





Плавільшчыкі расы, 1995г.

# Мастак Алесь Пушкін.

## Аўтабіяграфія

*працяг са стар. 4*

перыяду «Сац-арту», альбо «Дыкляратыўнага мастацтва». З 1992 года, у складзе Мастацкай Майстэрні Беларускае Каталіцкае Грамады, удзельнічаў у рэстаўрацыі й рэканструкцыі насьценнага жывапісу Магілёўскага Катэдральнага касьцёла. Там жа напісаны мной фрэскі: «Сьвятая Цэцылія, патронка Музыкі і Сьпеваў», «Сьвяты Арханёл Міхаіл, заступнік зямлі Беларускай». Тады ж у Менску, у Доме Літаратара адбылася мая другая персанальная выстава. 4-23 кастрычніка 1992 года адбылася персанальная выстава ў Магілёве. Тым часам, у выніку дапамогі з Амерыкі беларусаў-эмігрантаў, якіх заарганізаваў на гэта Сяржук Сакалоў-Воюш, была адкрыта 23 сакавіка 1993 года першая прыватная Галерэя сучаснага мастацтва ў Віцебску «У Пушкіна». Упершыню ў постсавецкім перыядзе мастацтва ў горадзе Віцебску зьявілася і аформілася, як зьява галерэя сучаснага постмадэрнізму ў жывапісе маладых Беларускіх мастакоў з Полацку, Гародні, Віцебску, тых творцаў канца 80-х -- пачатку 90-х гадоў, што вучыліся са мной у БДТМІ. За 1993-1995 г.г. было праведзена 8 значных выставаў жывапісу, графікі, скульптуры, сучаснай фатаграфіі, пластычнага перфомансу. Усё гэта рабілася на свае зробленыя сродкі, ані Міністэрства культуры, ані арганізацыі й фонды не падтрымалі галерэю. Яна была першай лабараторыяй-эксперыментам апошняга накірунку сучаснага мастацтва ў Віцебску і Беларусі. Куратары-мастацтвазнаўцы галерэі: Ларыса Міхневіч, Міхал Баразна. Пасьля 1994 году на галерэі зьмены палітычнага клімату не маглі не адбіцца, яе дзейнасьць падвергласся ідэалягічнай абструкцыі з боку гарадскіх выканаўчых улад. Прадчуваючы яе закрыцьцё, я даў згоду на правядзеньне ў памяшканьні галерэі 25-27 лістапада 1995 года 1 зьезду Беларускіх Нацыяналістаў. У выніку галерэя была зачыненая. Акцыі першай прыватнай галерэі Сучаснага Мастацтва ў Віцебску яшчэ праходзілі ў 95-96 г.г. у розных памяшканьнях у Віцебску, але было бессэнсоўна нешта ладзіць у горадзе, дзе афіцыйныя гарадзкія чыноўнікі забаранялі праводзіць гэтыя мерапрыемствы, нацкоўвалі міліцыю на нас, забаранялі ці рэкамендавалі дырэктарам тых установаў, дзе мы прасілі месца правядзеньня, гнаць нас і г.д. Адбывалася дзяржаўная дыскрымінацыя ўсяго беларускага, а насаджалася усё «славянскае». Да таго ж будынак, дзе мясьцілася мая майстэрня быў аддадзены Віцебскай Епархіі і Ўладыка Віцебскі і Аршанскі, епіскап РПЦ Дзьмітрый праз свайго служку - айца Анатолія Рабкіна вядома ж, расейца, — загадаў мне вызваліць памяшканьне. Віцебскае абласное ўпраўленьне арганізацыі Саюза Мастакоў Беларусі мне майстэрню не выдзяляла, хоць стаю я на чарзе з 1991 году. Таму 1 траўня 1997 года я канчаткова пакінуў Віцебск, бо быў змушаны выехаць разам з карцінамі і зборам галерэі ў мястэчка Бобр, на радзіму. Апошняя мая выстава ў Віцебску «Біяграфія» адбылася ў лютым 97 года, у эстэтычным цэнтры «Маладзік». У мястэчку Бобр зь лета 1995 года я распісваў новаадбудаваную царкву Сьв. Мікалая-Цудатворца. За леты 96, 97 г.г. я закончыў роспіс царквы. Гэта мой апошні буйны манументальны твор. У жніўні я абвянчаўся там, і жыву разам з жонкай у мястэчку Бобр, у сваім невялікім доміку. 11-26 сакавіка ў Воршы, у гарадской выставачнай зале прайшла мая тэматычная выстава жывапісу, графікі, сцэнаграфіі, да гэтага яшчэ забароненай ў1996 годзе ў Віцебску, Ірынай Бабенка, дырэктарам філармоніі. Першы вопыт працы па афармленьні сьпектакля ў мяне быў у 1993-1994 г. г., калі ў Беларускім Драматычным тэатры імя Я.Коласа ў Віцебску разам з рэжысёрам В.Масьлюком мы ставілі У. Шэкспіра «Кароль Лір». Другі сьпектакль «Фрэкен Юлію» Аўгуста Стрындберга я аформіў у тым жа тэатры ў 1997 годзе. Афармляў сцэну і касьцюмы 7 Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску ў 1994 годзе. Удзельнічаў у міжнародных выставах (Масква, Нямеччына). Працы ў ДММ Беларусі, Гістарычна-архітэктурнага музэю Полацка, гарадскіх музеях Воршы, у прыватных зборах Расеі, Беларусі, Нямеччыны, Латвіі.

1995г.

# Показкі

Бацька з сынам едуць на кірмаш. Сын увесь час лупцуе кабылу папругай. Тата кажа:
- Сынку, не рабі балюча кабыле, а то будзьма біцца!
- Тпр-р-ру...
- Чаго ты?
- Ну калі біцца, дык біцца...

- Якая розьніца паміж палякам і беларусам?
- Калі паляк мочыцца ў ракавіну, ён адтуль спачатку дастае посуд.

Аднойчы слон уцёк зь менскага заапарку. Праз гадзіну тэлефануе ў міліцыю мужык з прыгараднай вёскі: «Памажыце! Па маёй дзялянцы ходзе нейкая вялікая шэрая пачвара з двума хвастамі! Топча мой агарод і адным хвастом ірве агуркі!»
Міліцыянт: «І што яна зь імі робіць?»
Мужык: «Ат!.. Вы ўсё адно не паверыце!»

Прыехалі вертыкальшчыкі падымаць саўгас «Светлый Путь». Пытаюцца:
- Ну што, Пятровіч, можаш даць пяць літраў малака на карову?
- Гэта можна.
- А шэсьць?
- Ну дзе пяць там і шэсьць.
- А сем?
- Ну трэба пастарацца, напэўна, змагу.
– Ну, а дзесяць дасі?
- Не-э.. Гэта ўжо адна вада будзе.

# Аб'ява

Да ўвагі навучэнцаў 9-11 класаў, студэнтаў і абітурыентаў.

Зь 1 лістапада 2000 года для вас пачынаюцца **бясплатныя** курсы з удзелам вядомых навукоўцаў і выкладчыкаў Магілёва і Менска па наступных прадметах: **гісторыя і культура Беларусі, эканоміка, паліталогія, права, экалогія, асновы журналісцкага майстэрства, ангельская мова.**

Чакаем Вас!

Запіс слухачоў да 31 кастрычніка.
Тэл. для даведак:
**25-64-73**
(панядзелак, пятніца)




**вул. Ленінская, 27-50**

*@Магілёўская Маладзёжная*
Заснавальнік Магілеўская гарадзкая арганізацыя Маладога Фронту.
Адрэса рэдакцыі: вул. Ленінская, 27-50, г.Магілеў, тэл. 25-64-73, 22-54-19, факс 25-64-73, E-mail: mahmf@newmail.net
Для допісаў: а/с 25, 212030, г. Магілёў-30

Асоба галоўнага рэдактара высьвятляецца.
Спасылка пры перадрукоўцы на *Магілёўскую Маладзёжную* абавязковая.
Меркаваньні аўтараў могуць не супадаць з пунктам гледжаньня рэдакцыі.
Наклад 299 асобнікаў. На правах рукапісу.